№ 233 (1297)
Чацвер, 13 снежня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

**Надвор'е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі — пераважна па поўдні — невялікі снег, на асобных участках дарогі галалёдзіца. Вецер паўночна-ўсходні, 6—11 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — -13...-15, Мінску, Гомелі — -12...-14, Гродне, Брэсце — -10...-12.

У наступныя двое сутак: 14-га — у асобных раёнах, 15-га — на большай частцы тэрыторыі — снег. Вецер паўночна-заходні, 4—9 м/с. Тэмпература паветра 14-га ўначы — -15...-20, месцамі да -24, удзень — -7...-12; 15-га ўначы — -6...-11, месцамі да -16, удзень — -4..-9.



ПУЛЬС

## Цукеркі і шампанскае да Новага года

**Напярэдадні калядных і навагодніх святаў у гандлёвую сетку Беларусі будзе пастаўлена 2 млн. бутэлек айчыннага шампанскага і 2,5 млн. падарункавых набораў цукерак.**

Апрача шампанскага гандаль атрымае "каля 2 млн. бутэлек" гаіраваных вінаў і вінных напояў, выпушчаных беларускімі заводамі. У адрозненне ад практыкі апошніх гадоў, калі з мэтай назапашвання шампанскае "прытрымлівалася", восенню гэтага года гандаль ім не спыняўся.

Вага набораў цукерак будзе вар'іравацца ад 0,5 да 2,5 кг, кошт — ад 1,5 да 14 тыс. рублёў.

Пачынаючы з 22 снежня, па ўсёй краіне будзе праведзена 220 святочных кірмашоў, на якіх будзе прадстаўлена "ўся гама тавараў навагодняй тэматыкі — харчовыя і прамысловыя тавары, ёлкі і ёлачныя ўпрыгажэнні". У Мінску кірмашы пройдуць 22 снежня — ва ўсіх раёнах, 23 снежня — агульнагарадскі на Кастрычніцкай плошчы.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Жыхарка Горак добраахвотна здала ў міліцыю партыю зброі

**Жыхарка горада Горкі Магілёўскай вобласці па ўласнай ініцыятыве здала супрацоўнікам праваахоўных органаў зброю, якая знаходзілася ў яе доме.**

Гэта карабін і прыстасаваны для стральбы малакаліబернымі патронамі наган часоў Вялікай Айчыннай вайны, гільзы, патроны і кулі. Усё гэта магло належаць яе мужу, урачу мясцовай бальніцы, месцазнаходжанне якога пакуль невядома.

Мужчына знаходзіцца ў вышуку. Вядзецца праверка.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Колькасць наркаманаў павялічваецца

**У сярэднім колькасць наркаманаў у Беларусі штогод павялічваецца на 20—25 працэнтаў.**

У 1999 годзе было зафіксавана 47 выпадкаў транспарціроўкі наркотыкаў праз мяжу, а ў 2000 годзе — 41 спроба. Пры гэтым большую частку канфіскаваных у 2000 годзе наркотыкаў склалі макавая саломка, марыхуана і экстракцыйны опіум. Краіна транзіту наркотыкаў ператварылася ў краіну іх спажывання.

У Беларусі адбылася "прафесіяналізацыя" дробных і сярэдніх наркагандляроў. Аднак поўнасцю сфарміраванага рынку гандлю наркотыкамі ў рэспубліцы няма, паколькі крыніцы іх паступлення да дылераў носяць эпізадычны характар. На працягу апошніх гадоў кантрабандныя пастаўкі ў Беларусь наркотыкаў і сыравіны на іх выраб ажыццяўляліся з тэрыторый усіх сумежных дзяржаў, за выключэннем Латвіі.

Апошнім часам вядучую ролю ў арганізацыі незаконнага ўнутранага абароту гераіну на тэрыторыі Беларусі сталі адыгрываць прадстаўнікі цыганскіх дыяспар. Пра гэта сведчаць іх неаднаразовыя затрыманні з буйнымі партыямі гэтага наркатычнага рэчыва.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## На МАЗе ўзрасла вытворчасць аўтамабіляў і знізіўся выпуск аўтобусаў

**Па выніках 11 месяцаў 2001 года, выпуск таварнай прадукцыі на Мінскім аўтамабільным заводзе (МАЗ) у супастаўных цэнах склаў 330 мільярдаў 133 мільёны рублёў, што на 10,2 працэнта вышэй за такі ж леташні паказчык.**

За студзень—лістапад прадпрыемствам было выпушчана 13 тысяч 745 аўтамабіляў, што на 15,1 працэнта больш, чым за такі ж перыяд 2000 года. Вытворчасць прычэпаў і паўпрычэпаў таксама ўзрасла — іх з пачатку бягучага года на МАЗе выраблена 3 тысячы 448 адзінак, што на 9,5 працэнта больш, чым у студзені—лістападзе мінулага года.

Пры гэтым вытворчасць аўтобусаў у 2001 годзе скарацілася больш чым на 13 працэнтаў. За названы перыяд іх было выпушчана 399 адзінак, у той час як за 11 месяцаў 2000 года — 460. Між тым рэспубліканскай праграмай "Аўтобус" іх штогадовы выпуск запланаваны ў аб'ёме 1500 адзінак.

**Аляксей АРЭШКА.**

КАДРЫ

## Зеленкевича посылают в Латвию?

Поговаривают, что дождался новой должности бывший министр здравоохранения Игорь Зеленкевич. Не исключено, что Игорь Борисович возглавит белорусское посольство в Латвии.

Как известно, это вакантное место до сих пор пустует. Михаил Маринич — бывший посол Беларуси в Латвии фактически сложил свои полномочия еще весной этого года, когда объявил о намерении участвовать в президентских выборах в Беларуси. Официально указ об его отставке Лукашенко подписал сразу после выборов, в сентябре этого года.

В том, что врач Зеленкевич "переквалифицируется" в послы, ничего удивительного нет. В истории современной Беларуси достаточно примеров, когда власти предлагали бывшим высокопоставленным чиновникам, далеким от дипломатии, посольскую должность. Достаточно вспомнить бывшего шефа КГБ Владимира Мацкевича, бывшего вице-премьера Владимира Гаркуна. К слову, бывшему министру образования Василию Стражеву тоже предлагали посольскую должность в одной из азиатских республик СНГ, но он отказался. Василий Иванович предпочел остаться в системе образования и возглавил Республиканский институт высшей школы.

В отличие от своего бывшего коллеги, Игорь Зеленкевич до сих пор не трудоустроен, хотя прошло уже почти два месяца, как он не министр. А ведь обращаясь именно к Зеленкевичу, Геннадий Новицкий обронил свою известную фразу "Никто из бывших нынешней властью обижен не будет". А посольская должность — это отнюдь не плохой вариант для экс-министра.

О Зеленкевиче в медицинских кругах говорили, что он больше организатор и хозяйственник, чем врач. Хотя первое время, будучи министром, Игорь Борисович продолжал врачебную практику в 4-й клинической больнице Минска: иногда оперировал, регулярно дежурил по ночам. Правда, потом от совместительства отказался. И не потому, что не пристало министру подрабатывать, — министерская работа отнимала много времени и сил.

В Министерстве иностранных дел никаких комментариев о возможном назначении Зеленкевича послом Беларуси в Латвию не дают, ссылаясь на то, что нет соответствующего указа А.Лукашенко. Но и категорического "нет" тоже не высказывают. А между тем трудовую книжку из Министерства здравоохранения Игорь Зеленкевич уже забрал.

**Мария ЭЙСМОНТ.**
**Фото БЕЛТА.**



## "За ўратаванне мемарыяла Курапаты"



**Адбылося пасяджэнне грамадскай ініцыятывы "За ўратаванне мемарыяла Курапаты", на якім быў сфарміраваны выканаўчы камітэт.**

Першым пытаннем, вынесеным на абмеркаванне выканаўчага камітэта, было пытанне мемарыялізацыі ўрочышча Курапаты. Як паказаў вопыт іншых краін, стварэнне годнага помніка ў памяць ахвяраў палітычных рэпрэсій закранае пытанні этыкі і маралі, таму яно не павінна фарсіравацца. Сябры выканкама згадзіліся, што для стварэння сапраўды Нацыянальнага помніка ў памяць ахвяраў палітрэпрэсій павінна быць праведзена ўсенароднае абмеркаванне архітэктурных праектаў помніка.

Рабочая група распрацуе сваю канцэпцыю помніка, якая будзе прадстаўлена грамадскасці для ўсеагульнага абмеркавання. Гэта пакладзе пачатак грамадскай дыскусіі па стварэнні мемарыяла. У выніку будзе створана камісія па правядзенні конкурсу. Але паколькі пытанне мемарыялізацыі не можа адкладвацца на далей, вырашана, што бліжэйшым часам у Курапатах будзе ўзведзена часовая агароджа, а на ўваходзе пастаўлены брамы, што цалкам адпавядае нацыянальным традыцыям ушанавання памерлых.

Беларусь лічыцца шматканфесійнай краінай, таму выканкам вырашыў звярнуцца да прадстаўнікоў усіх зарэгістраваных канфесій з просьбай штотыдзень у час малебнаў і службаў памінаць загінуўшых у Курапатах.

З мэтай стварэння Беларускага Індэкса рэпрэсіраваных навукова-метадычная група плануе змясціць у СМІ зварот да людзей з просьбай дасылаць копіі даведак аб рэабілітацыі блізкіх, рэпрэсіраваных у савецкія часы.

*11.12.2001 г.*

**Фота IREX/ProMedia.**

КАНФЛІКТ

## Манаполія на шапікі, альбо Санітарная зачыстка-2

**Мы ўжо паведамлялі нашым чытачам пра асаблівую ўвагу Мінгарвыканкама да прыватных шапікаў, якія гандлююць у цэнтры сталіцы неабходнымі для жыцця дробязямі: газетамі, батарэйкамі, цукеркамі і інш. Спачатку санітарнай зачысткі падвергліся гандлёвыя кропкі ў раёне праспекта Скарыны — іх проста знеслі, нічога не прапанаваўшы пакупнікам узамен. Зараз, як стала вядома, на чыгуначным вакзале і ў некаторых "спальных" мікрараёнах горада ўлады таксама абвясцілі вайну прыватным гандлярам.**

Многія прыватныя прадпрымальнікі скардзяцца, што іх гвалтоўна праганяюць, загадаўшы "ачысціць месца" да 31 снежня, — нават не ўзгадваючы пра тое, што некаторыя з гандляроў заплацілі за зямлю, за кіёск, за іншыя прыстасаванні па 10—20 тысяч долараў з уласнай кішэні. Афіцыйным жа тлумачэнням, што прыватныя шапікі быццам бы надаюць некаторым месцам "нецывілізаваны выгляд", гандляры не вераць.

У прадпрымальніцкім асяроддзі зараз усё больш умацоўваецца думка пра тое, што шапікі — гэта не канчатковая мэта "аматараў чысціні" з гарвыканкама, у перспектыве, па іх словах, можна чакаць з боку дзяржавы татальнага абмежавання актыўнасці прыватнага гандлёвага бізнесу і штучнага ўсталявання манаполіі з боку дзяржаўнага гандлю.

Ускосна пацвярджае гэтую думку намеснік міністра гандлю Міхаіл Свянціцкі. Вось што ён заявіў у інтэрв'ю Радыё "Свабода": "Пазіцыя Міністэрства гандлю тут пэўная і выразная. Мы лічым ненармальным, што сёння трэцяя частка тавараабароту ў краіне прыпадае на неарганізаваны сектар. І гэта пры тым, што матэрыяльна-тэхнічная база гандлю дазваляе той жа тавараабарот мець у стацыянарных прадпрыемствах гандлю. Трэба арганізоўваць цывілізаваны гандаль. Што тычыцца зносу шапікаў, то гэта кампетэнцыя мясцовых уладаў, у Мінску — гарвыканкама. Але мне вядомы падыходы гарвыканкама, паводле якіх, трэба нашы, прынамсі, цэнтральныя вуліцы і магістралі ачысціць ад гэтых шапікаў".

Дзіўны погляд! Аказваецца, прыватны гандаль, з пункту гледжання дзяржчыноўніка — гэта "неарганізаваны сектар". А дзяржаўны гандаль, выходзіць, з яго бедным асартыментам, касмічнымі коштамі і няветлівымі, абыякавымі гандляркамі — гэта гандаль арганізаваны?



Дарэчы, нідзе ў свеце, нават у былых краінах савецкага лагера ва Усходняй Еўропе, няма такога паняцця, як дробны дзяржаўны гандаль. Дробны гандаль не на адну трэць, як сумуе сп. Свянціцкі, а на ўсе 100 працэнтаў аддадзены прыватным прадпрымальнікам. І ніхто не пакрыўджаны! Кошты разумныя, сервіс добры, шапікі на кожным кроку. Ды і дзяржава не ў накладзе: атрымлівае арэндную плату і падаткі з продажу. Калі і ўявіць сабе ў нейкай замежнай краіне сітуацыю з серыі "ўсесусветны патоп", пры якой дзяржаўным уладам прыспічыла б, напрыклад, пазмагацца за "цывілізаваны выгляд", то гэтае пытанне АБАВЯЗКОВА абмеркавалі б з самімі прадпрымальнікамі. Нават у выпадку, калі прыватнікі былі б не ў стане палепшыць сітуацыю самастойна, дзяржава абавязкова мусіла б падняць пытанне аб кампенсацыі. У любым выпадку, дзяржава не пайшла б на маштабны канфлікт з прыватным сектарам. Нашай жа дзяржаве, падобна на тое, усё да лямпачкі.

Дык каму выгадны ў Беларусі, у рэшце рэшт, падобны "цывілізаваны гандаль" і наогул манаполія на шапікі?

**Алесь СІЛІЧ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

## Бывай, Уладзімір Васільевіч!



**Цяжкая хвароба звалілася на УЛАДЗІМІРА ВАСІЛЬЕВІЧА МАЦВЕЕВА.**

**У мінулы аўторак ён пайшоў ад нас назаўжды.**

**Пражыў Уладзімір Васільевіч 72 гады. Працаваў на розных пасадах у сістэме дзяржаўнага кіравання, у тым ліку і на міністэрскай. Мы ўпэўнены: яго ўспомняць сёння і будуць узгадваць заўсёды добрым словам усе, хто працаваў разам з ім.**

**Нам жа пашчасціла некалі быць у штаце рэспубліканскай "Сельской газеты" ў той час, калі яе галоўным рэдактарам быў Уладзімір Мацвееў. Гэта былі незабыўныя гады.**

**З нас — розных па ўзросце, здольнасцях, тэмпераменце — рэдактар Мацвееў здолеў стварыць згуртаваны, моцны творчы калектыў. І не выпадкова газета трывала ўвайшла ў жыццё і лёс беларускага сялянства, стала надзейнай памочніцай і добрым дарадцам усім, хто жыве і працуе на зямлі.**

**Якім ён быў, наш Галоўны рэдактар?**

**Ён як ніхто іншы ўмеў разгледзець журналісцкі талент, падтрымаць яго і развіць.**

**Ён быў гранічна патрабавальны: не цярпеў неахайнасці, неабавязковасці.**

**Ён быў і вельмі клапатлівы: умеў абараніць сваіх падначаленых у складаных сітуацыях, не даць іх у крыўду. Нам заўсёды вядома было: мы — за спінай рэдактара Мацвеева.**

**Ён не цярпеў ляноты, інертнасці, таму што і сам працаваў з поўнай аддачай, газета была справай яго жыцця. У яго мы вучыліся засяроджанасці, дакладнасці ў справах і словах.**

**Ён заўсёды жадаў, каб талент абавязкова спалучаўся з адказнасцю за кожнае напісанае слова.**

**Ён і ў самых вострых момантах заставаўся самім сабою — чалавекам са сваім характарам, з высока развітым пачуццём уласнай годнасці.**

**Такім ён быў...**

**Сярод соцень турбот, трывог і абавязкаў не згубіцца ў нашых душах і сэрцах добрая памяць пра цудоўнага чалавека, таленавітага рэдактара Уладзіміра Мацвеева.**

**...Чалавек жыве, кажуць, да той пары, пакуль нехта помніць пра яго. Вучні Галоўнага рэдактара Уладзіміра Васільевіча Мацвеева працуюць цяпер у многіх сродках масавай інфармацыі. Мы помнім яго, мы будзем верныя яго навуцы, яго памяці.**

**Анатоль КАЗЛОВІЧ,**
**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА,**
**Інеса МІЦКЕВІЧ,**
**Аляксандр ПЕДЗІК,**
**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**Міхаіл ШЫБАЛІС,**
**Андрэй ЮДЧЫЦ.**

НЕЗАЛЕЖНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

## Цана ліпавай прыватызацыі

**Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар**



*Калі перад прэзідэнцкімі выбарамі і пасля іх А.Лукашэнка і яго памагатыя сталі гаварыць аб хуткай лібералізацыі эканомікі, то ўзнікла двaістае пачуццё.*

З аднаго боку, з'явілася надзея на паляпшэнні ў эканоміцы. Думалася, што кіраўнікі, дзякуй Богу, зразумелі, што вядуць краіну ў нікуды, у страшэнны тупік, і наважыліся зрабіць разварот у правільным накірунку. Такія меркаванні падтрымліваліся адменай бязглуздага і незаконнага дэкрэта №40 двухгадовай даўніны, паводле якога можна было канфіскаваць маёмасць прадпрымальнікаў без суда і следства.

З другога боку, адчувалася, што на прызнанне сваіх памылак урад не пойдзе, што ў руху ў нікуды зайшлі так далёка, што не хопіць ні сіл, ні сродкаў, ні волі, каб выправіць сітуацыю. На жаль, пасля трох месяцаў чаканняў выявілася, што другі бок абвешчанай лібералізацыі канчаткова ўзяў верх. Лібералізацыя аказалася ліпавай.

Сапраўды, каб ажыццявіць чакаемую і даўно наспелую лібералізацыю, трэба зрабіць так шмат і ў такой колькасці накірункаў, што нават цяжка ўявіць аб'ём і складанасць паўсталых праблем. Бо лібералізацыя — гэта не толькі спрашчэнне рэгістрацыі прадпрымальнікаў ці адмена ўсемагчымых лімітаў, але і непазбежная прыватызацыя, якая замарожана да такой ступені, што зрушыць гэты лёд не так проста. Зразумела, што ніякай лібералізацыі не можа быць без вольнага рынку працы, дзе назіраецца неверагодная дэфармацыя, без рэфармавання дабітай да ручкі сельскай гаспадаркі, без скарачэння і ўпарадкавання падаткаў, без карэннай змены падыходаў да дзяржаўнага кантролю. Валюнтарызм і неўпарадкаванасць праверак ліхаманяць бізнес.

Сёння, калі да заканчэння гаспадарчага года асталіся лічаныя дні, па канкрэтных дзеяннях улад стала зразумела, што размовы пра лібералізацыю маюць хутчэй прапагандысцкі характар, чым практычны. Ні сам кіраўнік, ні яго падначаленыя высокія начальнікі не збіраюцца рабіць рашучыя крокі.

У сярэдзіне лістапада ўрад прыняў пастанову №1653 "Аб дадатковых мерах па рэалізацыі праграмы ўдасканалення аграпрамысловага комплексу рэспублікі на 2001—2005 гады...". У дакуменце нічога не гаворыцца аб лібералізацыі, гэта значыць аб аграрнай рэформе. Ні слова аб прыватызацыі зямлі. Сказана толькі тое, што частка яе з прычыны нізкай прадукцыйнасці будзе выведзена з абароту. А пра перадачу зямлі сялянам — нічога. Вырашана правесці рэструктурызацыю арганізацый, якія пераапрацоўваюць сельгаспрадукцыю, шукаюць эфектыўныя метады супрацоўніцтва з дапаможнымі гаспадаркамі. Ёсць некаторыя эканамічныя меры, але яны скіраваны не на рэфармаванне сельскай гаспадаркі, а на захаванне на вёсцы, як кажуць, статус-кво.

Кіраўнікі краіны часам гавораць аб кітайскім вопыце стварэння рынычных адносін на вёсцы. Дык чаму не выкарыстаць гэты вопыт? У Кітаі распушчаны "народныя камуны". Усю зямлю перавялі ў сямейныя падрады. Сялянскія двары апрацоўваюць яе сваёй тэхнікай. Па сутнасці, там створаны фермерскія гаспадаркі, і праблема харчовай бяспекі ў краіне трывала вырашана. За апошняе дзесяцігоддзе ў прамысловасці вёскі створана 80 мільёнаў рабочых месцаў.

Нельга гаварыць аб лібералізацыі без упарадкавання падаткаабкладання, без зніжэння ўзроўню падаткаў. Але зрабіць гэта ўлады не ў стане, бо бюджэт і так трашчыць па ўсіх швах сёлета, і нічога добрага не відаць у будучым годзе. Пры абмеркаванні падатковага кодэксу ў Палаце прадстаўнікоў у законе пакінуты ўсе заганы адміністрацыйнай сістэмы. Напрыклад, рэгулюючая роля мясцовай вертыкалі, увод у дзеянне прававых норм "заднім" днём, магчымасць ільгот. Словам, ніякай празрыстасці ў дзейнасці закона.

Урад пры дэфіцыце фінансаў працягвае згубную палітыку фінансавання шматлікіх прыярытэтаў — ад жыллёвага будаўніцтва, падтрымання разваленай сельскай гаспадаркі да фінансавання імпарту і імпартазамяшчэння. Пры такім распыленні сродкаў цяжка чакаць якіх-небудзь станоўчых вынікаў. Сусветны вопыт сведчыць, што вызначэнне прыярытэтаў толькі тады дае чакаемы вынік, калі сродкі канцэнтруюцца на чым-небудзь канкрэтным.

Так, ажыццяўляючы рэформы, японскі ўрад таксама выкарыстоўваў прыярытэты. Спачатку дзяржава падтрымлівала вытворчасць танкераў. Як справа пайшла на лад, падтрымка была пераключана на вытворчасць малалітражных аўтамабіляў. Калі і гэтая праблема была вырашана, рэсурсы пераключылі на галіны вытворчасці электронікі і камп'ютэраў. Такія дзеянні ўрада забяспечвалі дынамічнае развіццё эканомікі.

Зразумела, што эканамічныя правілы ў эканоміцы патрабуюць не толькі неадкладнай лібералізацыі, але і рацыяналізацыі эканамічнай ролі дзяржавы. Разумеючы непазбежнасць і вызначальную ролю эканамічнай свабоды, прэзідэнт РФ У.Пуцін у пасланні Дзяржаўнай Думе, толькі што апублікаваным у кароткім выкладзе ў беларускім друку, вызначыў галоўныя накірункі развіцця свабоды ў Расіі. Гэта: эфектыўная абарона правоў уласнасці, забеспячэнне роўнасці ўмоў канкурэнцыі, вызваленне бізнесу ад адміністрацыйнага прыгнёту, зніжэнне падатковага цяжару, развіццё фінансавай інфраструктуры і перагляд сацыяльных абавязацельстваў дзяржавы.

Ці ёсць станоўчыя зрухі ў Беларусі ў вызначаных У.Пуціным накірунках лібералізацыі ў саюзнай Расіі? Цяжка знайсці. У Злучаных Штатах Амерыкі на 1000 чалавек насельніцтва дзейнічаюць сёння 74,2 сярэдніх і дробных прадпрыемстваў, у Італіі — 68, а ў Беларусі толькі 5,64. Удзельная вага прадпрымальніцкага сектара ў даходнай частцы бюджэту (16%) сёлета нават скарацілася ў параўнанні з 1995 годам.

На лібералізацыю сельскай гаспадаркі і прамысловасці ўрад А.Лукашэнкі не разгоніцца яшчэ і таму, што калі прадпрыемствы атрымаюць волю і пачнуць самастойна вырашаць праблемы канкурэнтаздольнасці, то іх першым крокам будзе звальненне лішку фактычна незанятай, а таму непатрэбнай рабочай сілы. І беспрацоўных стане не 100 тысяч чалавек, а 500 тысяч, калі не болей. Тут трэба будзе не супакойваючыя прамовы казаць, бо іх ніхто не будзе слухаць, а нешта рабіць.

## Справа аб забойстве Паўла Манёнка накіравана ў суд

Крымінальная справа аб забойстве кіраўніка цэнтральнага філіяла "Інфабанка" Паўла Манёнка накіравана пракуратурай Мінска для разгляду ў Мінгарсуд.

Як гаворыцца ў паведамленні прэс-службы пракуратуры, папярэднім следствам устаноўлена, што трое абвінавачваемых — П.Афанасьеў, Д.Каршуноў, А.Бузыкін 5 жніўня 2001 года, прыкладна ў 0 гадзін 40 хвілін, у парку Дружбы народаў па вуліцы Карастаянавай, "знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, маючы намер завалодаць маёмасцю, дзейнічаючы групай сумесна і па папярэдняй змове, здзейснілі напад з прымяненнем насілля з мэтай завалодання маёмасцю Манёнка". Яны сумесна нанеслі Манёнку не менш за 14 удараў рукамі і нагамі па розных частках цела, у тым ліку не менш за 8 удараў па жыццёва важных органах — галаве і шыі, прычыніўшы пацярпеламу цялесныя пашкоджанні, якія адносяцца да катэгорыі цяжкіх. Пасля гэтага яны завалодалі яго маёмасцю (мабільным тэлефонам, абручальным пярсцёнкам і іншай), а таксама наяўнымі грашыма — у цэлым больш чым на 1 мільён 400 тысяч рублёў.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

Народная Воля 13 СНЕЖНЯ 2001 г.

РЭГІЁН

## Бездакорна працуюць толькі лічыльнікі даўгоў

У выканкамах гарадоў і раёнаў Гродзеншчыны цяпер штотыднёва, як толькі ўсталяваліся маразы, "разглядаюць дынаміку разлікаў за энерганосьбіты". Гэта пакуль што адзіны рэальны вынік вялікай нарады, якая адбылася напрыканцы лістапада ў аблвыканкаме з удзелам кіраўнікоў канцэрнаў "Белэнерга" і "Белпалівагаз".

Пазбаўленыя абаротных сродкаў прадпрыемствы прымысловасці, сельскай і камунальнай гаспадаркі імкліва павялічваюць запазычанасць за электрычную і цеплавую энергію, спажыванне якой з пачатку зімы значна пашырылася. І "распрацоўка графікаў пагашэння даўгоў", што абавязала зрабіць нарада, не здольна, відаць, прыкметна паменшыць запазычанасць энергетыкам, якая перасягнула па вобласці 71 мільярд рублёў. Больш за 41 мільярд завінаваціліся гродзенскія прадпрыемствы і газавікам.

Не выконваецца адпаведная пастанова ўрада, паводле якой прадпрыемствы павінны ажыццяўляць у грашовай форме не менш як 55 працэнтаў разлікаў з энергетыкамі. Аднак паколькі многія буйныя спажыўцы энергарэсурсаў не маюць "жывых" грошай, то пануе сістэма ўзаемазалікаў. У выніку доля грашовых разлікаў па РУП "Гроднаэнерга" складае толькі 23 працэнты.

## Выжыванне ў экстрэмальных умовах

Гэта тэма фільма, які здымала на Навагрудчыне англійская тэлекампанія "ВВС-2".

Рэжысёр Рэй Міерс карыстаўся матэрыяламі кнігі Джона Кагана — былога навагрудскага партызана, сустракаўся з яго сябрамі па зброі, што жывуць цяпер у раёне. Здымкі праходзілі на месцах былых стаянак партызанскіх атрадаў і ў вёсках. А з вынікамі працы англійскіх тэледакументалістаў навагрудцы маглі пазнаёміцца ў мясцовым гісторыка-краязнаўчым музеі, дзе дэманстраваўся фільм.

## І малітва падлягае судоваму пакаранню

Гродзенскі мастак Дзмітрый Іваноўскі пакараны за арганізацыю, паводле версіі міліцыі і суда Ленінскага раёна, недазволенага ўладамі мітынгу-рэквіема "Без гісторыі — няма будучыні".

Гродзенскі гарвыканкам забараніў гэты мітынг, які прадстаўнікі грамадскасці горада меркавалі правесці на месцы знішчанай сорак гадоў таму па загадзе ўлад Фары Вітаўта. Па прапанове менавіта Дзмітрыя Іваноўскага на падмурках былога храма адбыўся не мітынг, а традыцыйны малебен. Але суд кваліфікаваў гэтае "мерапрыемства" і дзеянні яго "арганізатара" інакш — згодна з адпаведным артыкулам Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Іваноўскага пакаралі штрафам у памеры 150 мінімальных заробкаў.

Па словах юрыста Алега Куца, які абараняў у судзе апальнага мастака, Іваноўскі цяпер не мае сталай працы і не здолее заплаціць такі штраф.

**Станіслаў СТОКА.**

Белорусы между небом и землей
*Хроники Анатолия КОЗЛОВИЧА*

# 17. ОГУРЕЦ И ЛЕНИН

**Я вырастил на грядке огурец. Зелененький. С пупырышками. Представьте, из этого огурчика можно сотворить Ленина. Да, того самого, Владимира Ильича. Не верите, конечно. Ну, тогда слушайте...**

Как вы знаете, физик из Санкт-Петербурга Жорес Алфёров, уроженец Беларуси, недавно получил Нобелевскую премию. Отныне и вовеки не требуют доказательств его широчайшие познания и глубочайший ум. К тому же он компанейский мужчина, острослов, любимец женщин, блестящий организатор. И одновременно — партийный и думский соратник Геннадия Зюганова, коммунист-ленинец, поклоняющийся мощам из гранитного домика на Красной площади в Москве.

Одним словом, земляк Алфёров разный, по-гречески — гетерогенный. Являет собой живое воплощение своего гениального изобретения — ГЕТЕРОПЕРЕХОД.

Гетеропереход — контакт между двумя разными по химическому составу полупроводниками. Академик Алфёров придумал и применил такой контакт в транзисторах, тиристорах, лазерах. Он же соединил собой в себе несоединимое: созидательный нобелевский ум и разрушительное ленинское безумие, прозорливость разума и слепоту идеологии.

Увы, как ЧЕЛОВЕК-КОНТАКТ Алфёров не уникален, скорее — типичен, как все мы, в том числе автор этих строк.

***

На первомайской демонстрации 1965 года я, девятнадцатилетний фотокорреспондент Березовской районной газеты "Маяк коммунизма", неосознанно, без злого умысла исказил образ Ленина, стоявшего с вытянутой рукой на центральной площади. По неопытности я фотографировал против солнца да еще с нижнего ракурса. На первом плане у меня накренилась черная скала без деталей, но с узнаваемым силуэтом. Под скалу шли муравьиные толпы людей с лозунгами.

Редактор Воробьев, по-отечески терпеливо растивший из меня журналиста со школьной парты, закричал как настоящий коммунист: "Ленин должен быть добрый! А у тебя — давит людей. Дай мне истинного Ленина!" Пришлось искать на пленке дубль, где Ленин живее всех живых и добрее всех добряков, вместе взятых.

Газету, давшую мне путевку в профессию, читаю всю жизнь. В 1992 году в "Маяке" (уже без коммунизма) я прочитал письмо, которое и напомнило казус с моей ленинианой.

***

Рассказ землячки Ольги (фамилию сохранила в тайне):

"Это случилось 16 октября 1992 года. Меня подвезли к автобусу, следующему по маршруту Белоозерск—Береза. Была пятница, но людей было всего три человека. Захожу в пустой еще автобус и вижу, что шофер сидит и считает копейки. Ступила на третью ступеньку автобуса, смотрю — лежит на полу металлический рубль с изображением Ленина. Я подумала, что шофер уронил монету, и нагнулась, чтобы поднять и отдать ему.

Поднять рубль я не смогла — он был прикреплен к ступеньке. Шофер посмотрел на меня и спросил: "Что, не берется?" Мне так стыдно стало, сквозь землю провалилась бы. Села и думаю: зачем такое издевательство над людьми?

Пока я ехала до Березы, наблюдала за входившими в автобус людьми: как они-то относятся к этой копейке? Ее поднимали все, кто видел под ногами. Не поднимал только тот, кто знал, что она "не берется". Поднимали Ленина и старые, и малые, и школьники, и видные люди. Шофер — молодой, краснощекий детина — смеялся, каждому говорил: "Что, не берется?"

Наверно, каждому было обидно и горько, потому что в автобусе никто не говорил, была тишина. В моей душе была буря, текли слезы, сердце разрывалось от обиды. Детине никто не сказал ни слова.

Когда автобус остановился в Березе на автостанции, это было около 11 часов дня, я постаралась выйти последней. Посмотрела на шофера и сказала: "Скажите, пожалуйста, вы испытываете удовольствие оттого, что людей обманываете, или оттого, что топчут ногами Ленина?" Тут шофер сорвался. Говорил, что Ленин твой всех нас растоптал, пусть теперь его топчут.

Мне стало обидно за такого человека. От него можно ожидать только плохое, у него ничего святого за душой нет. Он затоптал не только Ленина, но и меня, мою жизнь.

Мне 53 года. Работала в колхозе не за деньги, а за выходы, за "палочки". Были бедные, ели хлеб из желудей. С 15 лет в колхозе, но ничего плохого не нахожу в Ленине. Пусть уберут монету из автобуса!"

Редакция послала письмо Ольги на реагирование. Из автопарка № 8 пришел ответ за подписью председателя профкома П.И.Скробота:

"По факту, изложенному в газете, администрация автопарка провела служебное расследование. Поступок водителя Козеко В.Н. обсужден на общем собрании автобусной колонны. Водитель строго предупрежден. Всему водительскому составу указано на недопустимость подобных случаев. Администрация приносит свои извинения".

***

Ленин в Березе был спасен. Привычно стоит сейчас на площади, указывая путь в пустой продмаг. Продолжает ли идти по ленинскому пути Ольга, не знаю, разыскать ее не удалось.

С Виктором Козеко я поговорил спустя десять лет. Сказал ему, что придумку с монетой считаю талантливым перформансом. В спектакле, поставленном им в автобусе, играл народ. Переживал по системе Станиславского, органически перевоплотившись в образы.

Виктор отнесся к моим словам настороженно. От журналиста он ждал подвоха. Не прошло оскорбление, нанесенное ему газетой и собранием. Он не ожидал общественного осуждения своего поступка. Прежде чем бросить рублевого Ленина под ноги, он ДУМАЛ. Преодолевал пионерское и комсомольское безумство. Освобождался от токсинов коммунистической идеологии. ПРОЗРЕВАЛ.

Виктор Козеко предположил, что процесс очищения от ленинизма идет ныне в каждом человеке. Ведь открылось столько фактов: Ленин — палач, кровавый экспериментатор, бесплодный сифилитик...

Оказывается, вечной колхознице Ольге факты нипочем. Ей по душе блаженство, когда прекрасен даже хлеб из желудей. Чтобы удерживать человека в подобном состоянии, функционируют администрация предприятия, профсоюзный комитет, общее собрание коллектива, государственная газета. Это открыл для себя Виктор Козеко. К тридцати годам очистившись от Ленина, он не стал свободным. Из автопарка Виктор вынужден был уволиться. С ним осталось разочарование. Вокруг него — не очищенная от ленинизма жизнь.

***

В моей библиотеке есть книга "Письма трудящихся Белоруссии В.И.Ленину" (издана в 1960 году). Из предисловия: "В сборнике помещено лишь 185 документов — маленькая частичка того потока корреспонденции, который шел из Белоруссии в период с октября 1917 года по январь 1924 года в адрес В.И.Ленина. Но и в этой капле отражена горячая, неиссякаемая любовь белорусского народа к великому вождю и учителю. В ней, этой маленькой крупице, слышен живой, взволнованный голос людей, взявшихся под руководством Ленина строить невиданное доселе и желанное общество — коммунизм".

Прочитав книгу, я выбрал в "потоке любви" телеграмму: "7 ноября 1922 г. Москва, Кремль, товарищу Ленину. Конференция Малодушской вол., Речицкого у., Гомельской губ., собравшаяся 7 ноября на празднование Октябрьской революции, избрала Вас почетным членом президиума и шлет горячий привет. Конференция констатирует, что крестьяне хутора Лесного Острова переименовали свое селение в Красный Остров и этим доказали, что они стоят на страже завоеваний революции. Да здравствует наш дорогой вождь Владимир Ильич".

Стандартный журналистский ход: я поехал в Красный Остров. Это было в октябре 1973-го. Мне только что исполнилось 27 лет. Тот журналист был по-человечески любопытен, но идеологически запрограммирован. Он растерялся, когда в Малодушском сельсовете ему сообщили, что у них нет деревни Красный Остров, есть Лесное.

Деревню переименовали "назад". А как же телеграмма Ленину? Ну, это было давно, как в народе шутят — давно и неправда.

"И что вы не видели в том Лесном? Крыши гнилые. Хатки невзрачные. Деревня неперспективная. Подлежит сносу. Дорога туда непроезжая, восемь километров грязи, автобус не ходит, колхозный молоковоз только что ушел, больше транспорта нет, уже вечереет". Так убаюкивали меня председатель сельсовета и председатель колхоза "Победа". Под их песенку вдруг повалил снег, такой густой и темный, что впору посидеть в тепле, попить чаю, возвращаться в Речицу, а оттуда в Минск...

***

Журналист, не поехавший в Лесное, был упрямый комсомолец. Перезимовав, в марте 1974-го он вторично отправился по ленинским заветам. Малодушский сельсовет и колхоз "Победа" решил обойти, чтобы не сбивали с пути. В Лесное его лихо мчал на мотоцикле тракторист, тамошний житель.

Восемь километров дорога пролегла лесом, по сухим полесским взгоркам. Никакой грязи, хотя был сырой март. Оба председателя лгали, что дорога непроезжая. Им не хотелось, чтобы я попал в деревню Лесное. На дороге я увидел то, что отложилось в памяти навсегда. Сруб деревянного дома, без крыши, с разваленным углом, стоял посреди пути. "Что это?" — "Наша школа", — ответил тракторист-мотоциклист.

Мы постояли возле школы. Сруб был сосновый, на дубовом основании. На стене висела поцарапанная шильда: КРАСНООСТРОВСКАЯ НАЧАЛЬНАЯ ШКОЛА. Тракторист рассказал, что три трактора тащили сруб в центр колхоза. Председатель решил приспособить школу под склад. Тащили по-варварски, не подложив под нижний венец полозьев, не связав в углах. В пути сруб сломался. Его бросили в лесу...

Я сижу за маленькой партой. Она еще новая, не исписанная, не изрезанная ножиком, с зелеными крышками, с двумя ямками для чернильниц и канавками для ручек. Точно такая была у меня в Горской начальной школе. Сижу и считаю: одиннадцать парт — перевернутых, заляпанных грязью. Груды битого кирпича. Каждый кирпичик с одной стороны голубой — значит, был печкой. Было в школе тепло, скрипели перья, учительница Людмила Романовна стояла у доски, на стене висел большой портрет чистенького мальчика Володи Ульянова, маленький портрет-звездочка того же мальчика был приколот на груди каждого октябренка...

Школа стояла на краю деревни, на бугре. Со всех сторон бугор обсажен дубами. На каждом висят скворечники. Дубы не выпускали школу. Чтобы сорвать школу с исторического места, три дуба спилили, они лежат неподалеку. Там, где стояли дубы, и дальше, по пашне, и еще дальше, к лесу, — широкая полоса изодранной земли. Это пропахал дорогу сруб Красноостровской начальной школы.

Это был наглядный ЛЕНИНСКИЙ ПУТЬ В НИКУДА.

***

В начале семидесятых в Беларуси начали осуществлять государственную программу свертывания "неперспективных" деревень. Таковых набрали двадцать четыре тысячи. Оставшиеся, три тысячи сто, определили как "перспективные".

Антинародную авантюру партии обосновали неучи из научно-исследовательских и проектных институтов. Колхозные начальники ломали в обреченных деревнях дома, магазины, школы, бани, клубы, фермы. Об этом в семидесятых-восьмидесятых я написал и напечатал много статей в республиканской и союзной прессе. Неучи и пройдохи, огрызаясь, попортили мне крови. Но силы мне придавал Ленин. Я опирался на Ленина. Ленин освещал мой путь. Вечно правильными цитатами из Ленина я ставил оппонентов в уязвимое положение. Добавь цитату из Брежнева, и ты — в броне. Никто не достанет.

ОБМАНУЛИ ЛЕНИНА — вот квинтэссенция моего очерка "Красный Остров". Автор не мыслил, а подбирал факты под догму. Типичное поведение графоманов-априористов, сочиняющих догматические опусы о вреде вина, табака, мата, секса, рокмузыки и не замечающих нюансов действительности.

В "Красном Острове" я стоял на ленинской платформе. Никто не мог опровергнуть Ленина, кроме ... жизни.

Коммунистический разор народной жизни я заметил, но не разглядел сути: СОПРОТИВЛЕНИЯ ЖИЗНИ. Никто не знал, когда и почему произошло переименование Красного Острова в Лесное. После войны кто-то в сельсовете в какой-то текущей бумаге машинально зафиксировал то, что произносилось людом, — Лесное. Чужеродный элемент — Красный Остров — выпал в осадок.

Гипнотическое состояние, вызванное телеграммой Ленину, прошло. Жизнь самоочистилась от Красного Острова. Исконное имя деревни вернулось само по себе. Жаль, в аду, в который деревню завели наследники Ленина, она потеряла все силы. Скоро Лесное растворится в лесу, сравняется с землей. В нем 49 хат.

***

Освобождение от Ленина не может произойти революционно, насильственно, механически. Это внутренний эволюционный процесс. Для очищения необходим толчок, катализатор. Сужу по себе.

Я исходил Москву в пределах Садового кольца. Однако ни разу не посетил Мавзолей Ленина. Даже будучи при партбилете с его силуэтом. Что меня останавливало от встречи с "вечно живым"? У Мавзолея мне вспоминался запах скотомогильника в лесочке, посаженном у моей деревни Горск. Сдохших на колхозной ферме телят прятали неподалеку, но хорошо присыпать землей ленились. Проходя мимо, все затыкали нос.

Лесок зеленел, поднимался выше и выше. Там появились грибы. Люди пошли за грибами. А телята на ферме дохли и дохли, их оттаскивали в лес, кое-как зарывали. И запах колхозного мавзолея доходил аж до Москвы.

Мои ощущения утвердились, когда в 1999 году посмотрел фильм московского тележурналиста Павла Лобкова о мавзолейных похождениях Ленина. Вождя периодически помещают в ванну со специальным раствором. Как огурец перед засолкой отмывают от горькоты и грязи, так Ленина — от красного террора и стона большевистских концлагерей. Из Ленина делают невероятное — ВЕЧНО СОЛЕНЫЙ ОГУРЕЦ.

Вымачивание Ленина тактично не показали. На глазах у зрителей сотрудники в белых халатах и с марлевыми повязками на лице окунали в вечность бомжа. Этому бомжу повезло. В январе 1924-го его нашли мертвым на вокзале и ради эксперимента забальзамировали. А потом — Ленина, который живет в сердцах и умах почитателей.

Процесс очищения от Ленина настолько труден и длителен, что одной человеческой жизни может не хватить. Известному ныне поэту-демократу во время массового гипноза померещилось, что Ленин только и делал, что думал о Беларуси и белорусах. Ладно, такое бывало и с физиками, и с лириками. Но сегодня прочитал его интервью — и не увидел окончательно проснувшегося человека. Раздраженно говорит, что ему не стыдно. Поэтический организм не выработал очистительного средства — самоиронии.

Ленинизм в некоторых людях действительно непобедим. Это — как нетрадиционная сексуальная ориентация. На Западе убедились, что бороться с оной бессмысленно, бесполезно. Прозревают и в капитализирующейся России. Борис Моисеев поет даже перед милиционерами на их празднике.

Пойте и танцуйте, Боря, имеете право на индивидуальность. А мир, в котором вы выражаете себя, настроен развиваться. Хочу напомнить, что он развивается благодаря традиционной ориентации на продолжение рода и вида.

**Мир нормален потому, что в нем нет бесплодного ленинизма.**

КОЛОНКА ЮРИСТА

**Олег ВОЛЧЕК,**

*автор рубрики ждет ваших вопросов*

## Хочу квартиру мужа

*Мой муж умер, квартиру завещал дочери от первого брака, могу ли я претендовать на квартиру?*

**В.Л.Петрова.**
**Брестская обл.**

В соответствии со ст.ст. 1057, 1065 ГК РБ: наследниками по закону первой очереди являются дети, супруг и родители умершего. Внуки наследодателя и их прямые потомки наследуют по праву представления.

Принадлежащее супругу в силу завещания или закона право наследования не затрагивает других его имущественных прав, связанных с состоянием в браке с наследодателем, в том числе права собственности на часть имущества, совместно нажитого в браке.

По решению суда супруг может быть устранен от наследования по закону, за исключением наследования на основании статьи 1064 настоящего Кодекса, если будет доказано, что брак с наследодателем фактически прекратился до открытия наследства и супруги в течение не менее пяти лет до открытия наследства проживали раздельно.

## Как выселить лодыря?

*Можно ли выселить человека из жилого помещения, если он не принимает участия в уходе за этим жилым помещением?*

**Т.А.Миронова.**
**Минск.**

В соответствии со ст. 39 ЖК РБ, если наниматель, члены его семьи или другие совместно проживающие с ним лица систематически разрушают или портят жилое помещение либо используют его не по назначению, либо систематическим нарушением правил пользования жилым помещением делают невозможным для других проживание с ними в одной квартире или в одном доме, а меры предупреждения и общественного воздействия оказались безрезультатными, выселение виновных по требованию наймодателя или других заинтересованных лиц производится в судебном порядке без предоставления другого жилого помещения. Граждане, подлежащие выселению без предоставления другого жилого помещения, по требованию наймодателя могут быть обязаны судом взамен выселения произвести обмен занимаемого жилого помещения на другое жилое помещение.

## За что уволили?

*Меня уволили с работы, на которую я была принята с предварительным испытанием, не указав основания увольнения. Прав ли наниматель?*

**Л.Д.Гапоновская.**
**Могилевская обл.**

В соответствии со ст.ст. 28, 29 ТК РБ с целью проверки соответствия работника поручаемой ему работе трудовой договор по соглашению сторон может быть заключен с условием предварительного испытания, за исключением случаев, предусмотренных частью пятой настоящей статьи.

В период предварительного испытания на работника распространяется действие настоящего Кодекса с особенностями, предусмотренными настоящей статьей и статьей 29 настоящего Кодекса, а также иными актами законодательства о труде.

Срок предварительного испытания не должен превышать трех месяцев, не считая периода временной нетрудоспособности и других периодов, когда работник отсутствовал на работе.

Условие о предварительном испытании должно быть предусмотрено в трудовом договоре. Отсутствие в трудовом договоре условия о предварительном испытании означает, что работник принят без предварительного испытания.

**Предварительное испытание при заключении трудового договора не устанавливается для** работников, не достигших восемнадцати лет; молодых рабочих по окончании профессионально-технических учебных заведений; молодых специалистов по окончании высших и средних специальных учебных заведений; инвалидов; временных и сезонных работников; при переводе на работу в другую местность либо к другому нанимателю; при приеме на работу по конкурсу, по результатам выборов; в других случаях, предусмотренных законодательством.

Каждая из сторон вправе расторгнуть трудовой договор с предварительным испытанием: до истечения срока предварительного испытания, предупредив об этом другую сторону письменно за три дня; в день истечения срока предварительного испытания.

При этом наниматель обязан указать причины, послужившие основанием для признания работника не выдержавшим испытания. Решение нанимателя работник вправе обжаловать в суд.

Если до истечения срока предварительного испытания трудовой договор с работником не расторгнут в соответствии с частью первой настоящей статьи, то работник считается выдержавшим испытание и расторжение с ним трудового договора допускается только на общих основаниях.

## Должен алименты

*Как определить задолженность по алиментам?*

**Н.В.Козловская.**
**Минск.**

В соответствии со ст. 110 КоБС РБ взыскание алиментов по исполнительному листу за прошедшее время производится не более чем за три года, предшествовавшее предъявлению исполнительного листа к взысканию.

В случаях, когда по исполнительному листу, предъявленному к взысканию, удержание алиментов не производилось в связи с розыском должника, взыскание алиментов должно производиться за весь прошлый период независимо от установленного срока давности.

Задолженность по алиментам определяется исходя из заработка и (или) иного дохода, полученного должником за время, в течение которого не производилось взыскание.

Если должник в этот период не работал или не представлены документы, подтверждающие его заработок и (или) иной доход, задолженность определяется исходя из заработка и (или) иного дохода, полученных им ко времени взыскания задолженности, но не ниже минимальной заработной платы, установленной на момент определения размера задолженности.

В случаях, когда должник не работает, задолженность определяется исходя из заработка должника по последнему месту работы, а при отсутствии сведений об этом — из средней заработной платы для данной местности.

Не считается задолженностью недоплата по алиментам, если она образовалась в связи с простоем или иными обстоятельствами, имевшими место по независящим от должника причинам. В таких случаях удержание алиментов производится в размере, предусмотренном статьей 92 настоящего Кодекса, исходя из фактического заработка и (или) иного дохода лица, обязанного уплачивать алименты, за проработанный при указанных обстоятельствах период. Недополученная сумма алиментов должна компенсироваться взыскателю выплатами из Фонда социальной защиты населения республиканского органа государственного управления, ведающего вопросами социальной защиты, с последующим возмещением данному Фонду выплаченных сумм нанимателем в порядке, определяемом правительством Республики Беларусь.

При несогласии с определенным судебным исполнителем размером задолженности по алиментам взыскатель или должник могут обжаловать действия судебного исполнителя в порядке, установленном Гражданским процессуальным кодексом Республики Беларусь.

**Общественное объединение "Правовая помощь населению"** оказывает бесплатную правовую помощь пенсионерам, инвалидам, одиноким и многодетным матерям, студентам, несовершеннолетним и другим малоимущим слоям населения. Если Ваши права нарушены, обращайтесь к нам в приемную, по адресу: **г. Минск, пр-т Партизанский, д. 2, корп. 4 "В", комната 508.** Предварительная запись по **тел. 266-56-54**.

Свидетельство о регистрации № 05/0077, выданное Управлением юстиции Мингорисполкома 10.09.1998 г.

# Для пенсионеров "черный день" не за горами

Большинство пенсионеров хвалили президента за то, что вовремя получали пенсии. Но, похоже, ситуация скоро изменится не в пользу стариков и инвалидов. Угроза несвоевременной выплаты пенсий становится реальной. К примеру, на Витебщине субъекты хозяйствования задолжали областному Фонду социальной защиты населения около 16 миллиардов рублей: больше половины месячной потребности средств для расчета с пенсионерами. Самыми злостными неплательщиками являются предприятия агропромышленного комплекса. У колхозов и совхозов нет денег, чтобы людям выдать вовремя зарплату. Что уж говорить об отчислениях в госказну.

И в других отраслях достаточно предприятий, которые тоже "на ладан дышат". Витебский домостроительный комбинат задолжал Фонду 514 миллионов рублей "пенсионных" денег, инструментальный завод в Орше — 395 миллионов рублей, фирма "Лёс" в г.п.Барань — 298, АО "Орша" — 253, ОАО "Витебскмебель" — 165, завод "Измеритель" в Новополоцке — 162, витебские заводы электроизмерительных приборов и радиодеталей — 167,7 и 102,2 соответственно.

По сравнению с началом года потребность в средствах для выплаты пенсий увеличилась почти вдвое, а собрать деньги для этих целей становится все труднее. Витебскому областному фонду то и дело приходится обращаться за помощью в республиканский фонд. Однако и там иссякли резервы. К тому же из государственного бюджета (для выплат пенсий бывшим военным, семьям военнослужащих на содержание детей) поступает чуть больше 10 процентов, да еще и за 2000 год из столичного фонда не поступило 1,6 миллиарда рублей. Вот и приходится этой категории граждан выплачивать пенсии и пособия, залезая в карман "трудовых" пенсионеров.

По имеющимся сведениям, исполкомы на местах "дают добро" на выплату зарплаты без отчисления страховых взносов в Фонд социальной защиты населения. Конечно, своя рубашка ближе к телу: рабочему человеку без денег — как без воздуха. Пенсионер может и подождать. Правда, пока Фонду удавалось выкручиваться. Но настал час пик. Точнее — не за горами "черный день". Кстати, президент не так давно публично заявил, что у него есть деньги, вырученные от продажи вооружения. И эти деньги, по словам "батьки", якобы на "черный день". Раскошелится ли глава государства, чтобы не попасть в немилость своему электорату?

**Владимир ЖИГУЛОВ.**

# Зіма

Фота IREX/ProMedia.

# Расіяне хочуць купіць нашы заводы

**У рамках абвешчанага ў Беларусі курсу на лібералізацыю эканомікі ўрад рыхтуе асобныя пакеты прапаноў па рэфармаванні розных галін прамысловасці.**

"Акцыяніраванне — самая эфектыўная і самая простая форма размеркавання ўласнасці, — сказаў віцэ-прэм'ер Леанід Козік. — Таму падыход можа быць такім. Нейкія прадпрыемствы будуць акцыяніравацца з захаваннем стопрацэнтнага пакета акцый ва ўласнасці дзяржавы. Пазней дзяржава можа пераразмяркоўваць свой пакет акцый паміж больш дробнымі акцыянерамі. Так могуць размяркоўвацца 10, 20, 30 працэнтаў пакета акцый".

Паводле слоў Леаніда Козіка, зараз "вельмі шмат жадаючых" атрымаць акцыі Наваполацкага нафтаперапрацоўчага завода. "Але, я думаю, калі справа дойдзе да неабходнасці ўносіць канкрэтную суму, плаціць за гэтыя акцыі, колькасць жадаючых зменшыцца, — сказаў віцэ-прэм'ер. — І, паверце, вельмі танна мы нашы прадпрыемствы прадаваць не будзем — плануем ацэньваць іх па рэальным кошце. Калі хтосьці кажа, што завод каштуе 50 мільёнаў долараў, то гэта яшчэ не гаворыць пра тое, што мы прададзім яго за гэтую суму. Гэта ж балансавы кошт, а рэальна тое ж прадпрыемства каштуе, можа, 380 мільёнаў". Козік таксама зазначыў, што на кожным прадпрыемстве продаж акцый будзе суправаджацца абавязковай умовай правядзення рэканструкцыі і тэхнічнага пераўзбраення.

**Наталля КУЛАГІНА.**

